„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 4 (48) БЕЛАСТОК, 27 СТУДЗЕНЯ 1957 г. ГОД II

А. ОМІЛЬЯНОВІЧ

## ЗНІШЧЭННЕ

*Эх, родныя пушчы,*
*бары!*
*Як вы парадзелі і звузілі колы!*
*І колькі ў вас плешын асмаленых, голых*
*Пяе вецер, вандроўнік жарлівы вясёлы.*
*Высвіствае спеў свой стары!*

*(Я. Колас)*

Сёння вельмі часта гаворыцца, што лясам нашым пагражае знішчэнне, рацыянальная эксплуатацыя прычынілася да таго, што незадоўга ўжо не будзе чаго сячы.

Вырашыў я разглядзіць гэтую праблему на аснове лічбаў і фактаў, якія быццам ніколі не памыляюць нас. Ужо ў 1945 г. лясы былі страшэнна знішчаныя, вядома як акупант гаспадарыў у іх. Колькі гаварылася, колькі ўзнятых слоў змарнавалася дзеля таго, каб паказаць нашую апеку над лясамі і іх рацыянальную эксплуатацыю. Аднак фразеалогія не дапамагла. Змарнаваліся тоны паперы (зробленыя іменна з дрэва) але лясы Беласточчыны ўсё больш і больш прарэджваліся.

Нямала мусілі напрацавацца навуковыя супрацоўнікі лясніцтва, пакуль падлічылі колькі лесу можна вырубаць у Беластоцкім ваяводстве. Бяручы пад увагу ўсялякія абставіны канчаткова ўстаноўлена, вырубаць 855 тысяч кубічных метраў у год.

Яны лічылі што, калі іменна гэткая, а не іншая колькасць дрэва будзе вырубвацца ў нашых лясах — то (хоць праўду кажучы гэта вялікая колькасць) знішчэнне не будзе грозным. Гэты лік, зв. паўсюдна этатам, зацьверджаны Міністэрствам лясной гаспадаркі знаходзіцца ў Акруговым Праўленні лясной гаспадаркі ў Беластоку і прынцыпова павінны з'яўляцца абавязкавым. Аднак гэтыя пераліkі засталіся толькі на паперцы, а практычна быццам нікога не абавязваюць і ў шасцігадовым плане ніхто гэтага не трымаўся. Колькасць сечанага дрэва штораз узрастала (па загаду вярхушак) да вялікіх размераў — нават да мільёна кубічных метраў.

У Акруговым Праўленні лясной гаспадаркі я даведаўся ад інжынераў: Сасноўскага, Куроўскага і іншых, што яны часта звярталіся да Міністэрства лясной гаспадаркі, прадстаўлялі ім лічбы як доказ масавага знішчэння лясоў. Міністэрства быццам дзяцей суцяшала іх, талкавала што адбудова і, што калі закончыцца 6-годка — тады не будзе патрэбы сячы толькі лесу. Ляснікіківалі галовамі і выконвалі загад.

Прыйшла 5-годка. І сапраўды, прыйшлі вялікія перамены. І лік дрэва запланаванага на выруб таксама моцна змяніўся. Калі ў гады шасцігодкі секлі каля мільёна кубічных метраў у год — то ў пяцігодцы запланавалі сячы 1 мільён 77 тысяч кубічных метраў.

Але ў Варшаве камусьці паказалася, што гэта малаваты лік. У сувязі з гэтым прыслалі загад што ў 1957 г. на Беласточчыне колькасць сечанага лесу павінна складаць лік 1.216 тысяч кубічных метраў, інакш кажучы 50 працэнтаў вышэй памянутай сумы пададзенай навуковымі супрацоўнікамі лясніцтва.

Ці да гэтага патрэбны каментарый? Гэта лік, які застрашыць кожнага чалавека са здаровым розумам. Даволі доўга гутарыў я з інжынерам Сасноўскім і Куроўскім. Праз цэлы час падавалі мне лічбы і факты, якія сведчаць аб рабунковай гаспадарцы лесу і яе выніках.

— Мы бязмежна любім лес, але што рабіць, маем загад і мусім яго сячы, — кажуць інжынеры, — калі гэткім спосабам будзем гаспадарыць далей — то верце нам — старым спецыялістам, што на Беласточчыне лес знікне (гаворым аб лясах старых). Каб вы маглі ў гэтым пераканацца — паедзьце ў Белавежскую пушчу і пабачце што там робіцца.

Я і паехаў. І вось, едучы чыгункай з Гайнаўкі ў Белавежу вы, можна сказаць, амаль не ўбачыце старога лесу. Нізенькі зараснік стварае імітацыю пушчы.



Rówieśniki litewskich wielkich kniaziów, drzewa
Białowieży, Świtezi, Ponar, Kuszelewa!...
Drzewa moje ojczyste! jeśli niebo zdarzy,
Bym wrócił was oglądać, przyjaciele starzy,
Czyli was znajdę jeszcze? Czy dotąd żyjecie?
Wy, koło których niegdyś pełzałem, jak dziecię...

(A. Mickiewicz)

У Раёне лясоў у Белавежы ў інж. Мацуты збіраюцца старыя, вопытныя ляснікі: Германюк, Шэршановіч і Якушэўскі.

З жалем і горычу кажуць аб тым, што дзеецца з пушчай і да чаго ўсё гэта давядзе.

Не магу тут не падаць хоць некалькіх лічбаў якіх я толькі пачуў. І вось: плошча паверхні Белавежскай пушчы складае лік 50 тысяч гектараў. Паводле доследаў і пераліkаў вопытных навуковых супрацоўнікаў з галіны сельскай гаспадаркі аказалася, што гадавы прырост дрэва ў пушчы складае 146 тысяч кубічных метраў.

У выніку таго, бяручы пад увагу патрэбы краіны — вырашана сячы не больш, чым 164 тысячы кубічных метраў лесу. Калі ўжо нельга цалкам захаваць гэтага прыроднага помніка натуры — то хоць паменшыць колькасць сечаных дрэў, — гэткім чынам колькасць высечаных дрэў будзе больш-менш набліжанай да колькасці ўзрастаючых.

Вылічэнні вылічэннямі але падумайце: вось, ужо ў 1952 г. у пушчы вырубана 201 тысяч кубічных метраў дрэва, у 1955 г. — 216 тыс. кубічных метраў, а ў 1956 г. — 246.230 кубічных метраў. На пяцілетку запланавана вырубаць 1.161.100 кубічных метраў, інакш кажучы штогод павінна вырубвацца па 232.220 кубічных метраў. Гэта астранамічныя лічбы і яны гавораць самі за сябе.

А як маецца справа пушчы, і ці на доўга хопіць лясоў?

Інжынер Мацута расказвае, што найбольш патрэбных гатункаў дрэў нельга ўжо знайсці. Сабраныя ў пакоі заяўляюць, што дуба, ясеня і вольхі хопіць, пры такім вырубе, не далей чым на 5 гадоў, іншых дрэў — да 20 гадоў.

А што потым? На каго будзем звальваць віну, што не бачылі, што рабілі?

Ва ўсёй пушчы вырубваюцца найбольш цэнныя дрэвы. Лесаводы вылазяць са скуры, каб выказаць цэлую грамаду наложаных на іх абавязкаў. Паасобныя лясныя ўстановы, якія займаюцца толькі пушчамі, маюць большыя планы вырубу як Раёны лясоў у іншых паветах і ваяводствах.

*(Працяг на стар. 2).*

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА





*Хор пад кіраўніцтвам Людмілы Іванаўны Панько падчас выступлення.*



*Сакольская публічнасць.*

# „Захацела бабуленька..."

Канчаўся зімовы марозны дзень. Вечарэла. На зямлю апускаўся змрок. Звальняючы свой бег, шуршачы па замерзлай вуліцы, колы аўтобуса затрымаліся перад даволі вялікім як на вясковыя ўмовы домам у Крынках.

— Ага, значыцца тут будзе адбывацца канцэрт.

Мы глянулі праз ваконныя шыбы, а там... маса народу. Адны з поспехам праходзілі праз вузкія дзверы ў сярэдзіну, іншыя з цікавасцю глядзелі на нашых харыстаў і танцораў, якія гуськом з чамаданамі ў руках пакідалі аўтобус выходзячы на чыстае, здаровае марознае паветра.

Прайшло мінут 20 часу і харысты ўжо пераапранутыя ў народныя беларускія касцюмы сталі на невялічкай сцэне меснага кіно. У зале шматлікая рознастайная публіка, сціснутая, што «іголкі не ўваткнеш».

Харысты крыху хваляваліся — вядома, першы выезды канцэрт, толькі людзей, кожнаму хацелася, каб як найлепш прайшоў гэты канцэрт, каб людзі былі задаволены.

Распачынаецца праграма. Праламваецца першая напружанасць. Песні змяняюцца танцамі. Беларускі народны танец «Крыжачок» — жывы і прыгожы, ці «Лянок» — у якім паказаны цэлы працэс апрацоўкі ільну, або беларуская турботна - вясёлая народная песенька «Захацела бабуленька разам збагацеці» — асабліва падабаюцца гледачам.

Вось пастаноўка харыстамі мантажу пад загалоўкам «Вечарніцы». Чыста народныя, часта вострыя словы, бестурботныя народныя частушкі маладых дзяўчат, якія толькі і думаюць, што пра хлапцоў, ды пра замуж, шчыры расказ старэнькай цётачкі, што гледзячы на маладых дзяўчат успамінае свае маладыя гады, прыход вясковых хлопцаў на вечарніцы, усё гэта трапляла да сэрца, — простага вясковага гледача.

Людзі весела смяяліся, а потым па-рознаму выражалі сваю падзяку і задавальненне. «Хоць яшчэ адну песню заспявайце» — прасілі, калі было аб'яўлена, што канцэрт ужо закончыўся

Артысты абяцалі, што яшчэ прыедуць у Крынкі.

— Прыязджайце да нас з нашымі старыннымі песнямі — сказаў нехта і я хіба не памылюся, калі скажу, што гэты чалавек у аснаўным выразіў таемныя жаданні простага народа, яго глыбокую любоў і прывязанасць да сваей песні, да песні, якая нарадзілася, вырасла і жыве ў народзе, як скарб яго.

Выходзячы амаль апошняй з глядзельнай залы, я сутыкнулася ў дзвярах з групай жанчын.

— Прыгожа, — гаварыла адна, — у нас ніколі так не было.

На вуліцы пачула галасы, здаецца, маладых хлапцоў: «Цётачка найлепша. Ну й цётачка!»

Значыць «Вечарніцы» запамяталіся як «Цётачка».

*

З Крынак паехалі мы ў Саколку, дзе адбыліся 2 канцэрты Беларускага Мастацкага калектыву песні і танца. І тут добра іх прынялі. І тут існавала атмасфера прыязнасці і задаваленння. А «Крыжачок», «Лянок», «Захацела бабуленька» і галоўнае беларускія «Вечарніцы» і тут разлілі шмат вясёласці, гумару і цяпла

Калі я глядзела на прысутных, на іх вочы накіраваныя на сцэну, вельмі жадала, каб багацце і прыгожасць жывога беларускага слова, беларускай песні ці танца, не толькі падабаліся, але і спарадзілі трывалую глыбокую пашану ў паляка і глыбокую любоў да беларуса да вялікай культурнай спадчыны беларускага народа.



*«Лянок».*

Позна ўначы вярталіся дамоў. Большасць харыстаў не супакойвалася. З нейкай задзёрыстасцю спявалі, «што ў галаву папала», як-бы не існавала для іх стомленасць.

Я ўспомніла канцэрты.

Чаму іменна «Вечарніцы» найбольш падабаліся? Бо вобразы і здарэнні ўзятыя са штодзённага жыцця народа, заключаюць у сабе тое, што народу блізкае, зразумелае і дарагое.

Гэты прыклад, як і іншыя падобныя, галасы слухачоў: «спявайце нашы старынныя песні», вучаць у якім напрамку павінна ісці праца беларускага мастацкага калектыву і на якім рэпертуарным матэрыяле ён павінен абгрунтоўваць сваю дзейнасць.

*

«Пачатак заўсёды найцяжэйшы» — кажуць людзі. А ў Беларускім мастацкім калектыве, гэты пачатак прайшоў з поспехам.

Можна смела сказаць, што Беларускі мастацкі калектыў выклікае вялікае зацікаўленне насельніцтва. Зараз ужо чакаюць у многіх мясцовасцях на канцэрты гэтага калектыву.

(вл)





*Дуэт: Зося Бусловіч (злева) і Вера Леўчук.*





*Варыянт «Вечарніц»*



 

# Кастусь Каліноўскі і паўстанне 1863 г.

«Беларускі народ збудзіўся ў XIX ст. пасля доўгавечнай спячкі», — такі сказ стаўся ў беларускай літаратуры і гісторыі агульнапрынятым. Аднак гэта, прынамсі ў вуснах гісторыі з'яўляецца вялікай несправядлівасцю і крыўдай для беларускага народу. Праўда, што да палітычнага жыцця гэты сказ, як паэтычная форма, мог-бы да поўнай меры ўжывацца, але палітычнае жыццё далёка не абыймае ўсіх праяваў жыцця народу. Беларускі народ, хаця і «спала» у ім палітычная думка, усё-ж-такі жыў. Здраджаны асвечанымі клясамі жыў пад саламянымі стрэхамі, сярод загнаных прыгонам сялян, жыў у іх песнях, казках, легендах, мастацтве, абычаях. І хаця гэтага не пабачылі некаторыя гісторыкі XX стагоддзя, ведалі гэта Бакунін, Герцан, Огарэў. Не паасобныя адзінкі разбудзілі беларускі народ, але ён сам прамовіў вуснамі гэтых адзінак. І гэткае становішча не толькі не памяншае значэння такіх, прыкладам, адзінак, як Кастусь Каліноўскі, а наадварот — робіць з іх жывых людзей, перадавую частку нашага народу.

Магутным рэхам адбіўся ў душах святлейшых адзінак Герцанаўскі «Колокол». Ён клікаў усіх пакрыўджаных, усіх прыгнечаных социяльна і нацыянальна да змагання за лепшую долю, за свае правы. Гукі «Колокола» не маглі абмінуць і Беларусь. Каліноўскі якраз быў узгадаваны на літаратуры расійскіх народнікаў.

Як паўстала і скрышталізавалася палітычная думка Кастуся Каліноўскага?

Бакунін падтрымліваў сярод палякаў думку аб паўстанні і клікаў іншыя прыгнечаныя народы да супольнай барацьбы. Але барацьбу гэтую ён уяўляў як змаганне сялян і работнікаў за социяльнае і нацыянальнае вызваленне сваіх народаў.

Узгадаваны на гэткіх думках Кастусь Каліноўскі вярнуўся з Пецербурскага універсітэта ў сваю Гродзеншчыну. Тут пад мянюшкай Васіля Світкі, вандруючы па вёсках ён прыслухоўваецца да голасу мас. І ён адкрывае вялікую прорву, якая існуе ў той час паміж селянінам - беларусам і спольшчаным панам з аднаго боку, і расійскім чыноўнікам з другога. Ясна, што ён у змаганні стане па старане селяніна, а гэта змушае яго кінуць кліч барацьбы супроць адных і другіх.

Ідэйнае спалучэнне з расійскімі народнікамі і непасрэдныя спасцярогі на вёсцы зрабілі Каліноўскага тым, чым ён ёсць, г. зн. змагаром за нацыянальнае і соцыяльнае вызваленне беларускага народу.

Паўстае аднак пытанне, чаму Каліноўскі бярэ ўдзел у паўстанні 1863 г., якое мае на ўвазе польскія нацыянальныя інтарэсы, а перш за ўсе шляхоцкі характар?

Бжозоўскі Станіслаў*) у творы сваім «Пломень» праз вусны селяніна, які браў удзел у паўстанні, так характарызуе гэтае паўстанне (перш за ўсё ягоных кіраўнікоў): — «Каб ды яны гэтай сялянскай Польшчы не баяліся, каб — ды ім гетманства і каштэлянства не пахла, я, стары — гавару — ужо-б на нашай зямельцы ніхто намі не кіраваў. Я да ног падаў розным панам... Крыкнуць на ўсю зямлю: — «Сяляне, зямлю браць, а ўзяўшы не пазволіць яе адабраць! Яны і Мураўёва не спалохаліся-б».

Гэты абразак рысуе ўсю трагедыю паўстання 1863 г. Паўстанне толькі тады магло-б лічыць на перамогу, калі-б патрапіла ўзварухнуць сялянскія масы. Тымчасам, затушаваўшы соцыяльны прабел, яно асталося для польскага сялянства незразумелым.

«Штык я ў партыі кінуў пад ногі», — расказвае той-жа ўдзельнік паўстання ў Бжозоўскага, — «калі мне селяніна вешаць казалі. — Шпіён ён,—гавораць — ён бацькаўшчыну, народ здрадзіў! — А яго бацькаўшчына і народ мала разоў здраджалі? Якая гэта яму бацькаўшчына? Што ён меў? Панскі бізун і панскую ласку, калі меў прыгожыя дочкі. Яму вы, ваша бацькаўшчына і цар — усёроўна».

І гэтае невыразнае соцыяльнае аблічча было цвікам у труну паўстання. Селянін не толькі не пайшоў за паўстанцамі, але паверыў агітацыі царскіх слуг, што паўстанне было выклікана панамі, нездаволенымі знясеннем паншчыны.

Аднак прыгледзіўшыся глыбей, глянуўшы ў падполле, дзе падрыхтоўвалася паўстанне, мы знойдзем адказ на пастаўленае намі пытанне. Нацыянальны Камітэт у Варшаве, які падрыхтоўваў паўстанне, выразна дзяліўся на дзве варожыя групы. Адну з іх прадстаўлялі «белыя», каторыя калі і ўспаміналі пра паляпшэнне долі селяніна, то адкладалі гэта на далёкую будучыню імкнуліся адбудаваць Польшчу шляхецкую. Другая група складалася з т. зв. «чырвоных», каторыя змагаліся за знясенне прыгону, за дэмакратычны лад, за федэрацыю з братнімі народамі.

І цяпер, прыпомніўшы палітычныя погляды Каліноўскага, мы лёгка зразумеем, чаму Кастусь Каліноўскі ўзяў дзейны ўдзел у паўстанні. Ён у паразуменні з «чырвонымі» сябрамі Камітэта імкнуўся здзейсніць свае вялікія мэты.

Але гэтыя мэты, як мы бачылі, пакрываліся з мэтамі часткі польскага грамадзянства, а тут адцемім, што не толькі польскага, але і украінскага, літоўскага і іншых. Дык Кастусь Каліноўскі падняў барацьбу за вызваленне не толькі беларускага, але і другіх братніх народаў, але рэпрэзентаваў ён думкі і імкненні беларускага народу і гэта ставіць яго ў рады беларускіх нацыянальных герояў.

В. С.

---

*БАКУНІН МІХАЛ (1814—1876) — рэволюцыянер, б. царскі афіцэр. У 1840 годзе апынуўся загранiцай. Браў удзел у рэволюцыі 1848 г. Два разы быў засуджаны на кару смерці (у Германіі і Аўстрыі), потым «памілаваны» і ў 1851 г. выданы Расіі, дзе быў замураваны ў крэпасць, потым высланы на Сібір. У 1861 годзе ўцякае заграніцу. Дапамагае польскаму паўстанню 1863 года.*

*ГЕРЦАН АЛЯКСАНДР (1812—1870) — выдатны расійскі пісьменнік і публіцыст. Выдаваў у Лондане свой вядомы палітычны двутыднёвік «Колокол». Таксама падтрымліваў польскае паўстанне, выступаў процi гвалту чыноўнікаў і памешчыкаў над прыгоннымі сялянамі.*

*ОГАРЭУ МІКАЛАЙ (1813—1877) — паэт, прыяцель і супрацоўнік Герцана.*

*БЖОЗОУСКІ СТАНІСЛАУ — польскі філосаф і таленавіты пісьменнік з канца XIX і пачатку XX ст.*

## Беларускія стравы

### СУП ГРЫБНЫ З ВУШКАМІ

Сушаныя грыбы адварыць, затым прапусціць разам з цыбуляй праз мясарэзку або дробна пашынкаваць. Адвар, у якім варыліся грыбы, пракіпяціць з невялікай колькасцю мукі так, каб атрымаўся пюрэпадобны суп, заправіць яго воцатам (па смаку). З пшанічнай мукі замясіць крутое прэснае цеста і зрабіць вушкі з грыбным фаршам (накшталт пяльменяў). Гэтыя вушкі абсмажыць у алеі і пакласці ў суп

## Ці ведаеце, што...

...нядаўна Педагагічнаму інстытуту ў Полацку прысвоена імя вялікага беларускага асветніка і першадрукара Георгія Скарыны. Усе студэнты і выкладчыкі з вялікай радасцю сустрэлі гэтую пастанову.



*На здымку: Аляксандар Юрчук і яго жонка Юльля — былыя партызаны атрада імя Дзержынскага*

*Фото — А. О.*

А. ОМІЛЬЯНОВІЧ (12)



Упаў на зямлю. Была ноч. Скочыў да недалёкай сцяны. Хаця балела мне ўсё цела, косці, сам не знаю як праскочыў высокую сцяну. Раптам забрахаў сабака. Потым адазваліся іншыя. Паляцела ў неба ракета, хтось выстраліў. А я голы бег, колькі сіл хватала ў старану пушчы. Ракеты асвятлялі крокі. Падаў я, уставаў, а ўсё-бы далей. Убег у лес. Быў свабодны.

Трошкі аддыхнуў і зноў пабег у пушчу. Сэрца падходзіла да горла, мускулы зусім не працавалі. Каб змыліць сляды дапаў да струменчыка і багна. Некалькі сот метраў цягнуўся я па шыю ў зімнай вадзе, а потым у балоце.

Калі зарыентаваўся, што ад Белавежы даволі далёка ўжо адбег, што ўжо не чуваць пагоні, адпачыў крыху ў кустах, дрыжучы ад холаду і вычарпання.

Уставала раніца. Вакол была глухая пушча. Дзе быў, які гэта быў квартал, не ведаў. Брудны, абмазаны балотам і шыпулькамі, як першабытны чалавек ішоў далей. Цела адмаўляла паслушэнства, палілі раны, дакучаў голад. Наступную ноч праспаў трохі на дрэве. На другі дзень вышаў я на ўзлессе.

Недалёка відаць было вёску. Аколіцы гэтай не знаў. На полі працаваў якісь селянін. Калі ён зблізыўся да лесу я вышаў да яго, той убачыўшы мяне крыкнуў і хацеў уцякаць. Учуўшы, што гавару па-беларуску пачаў са мною размаўляць. Вёска гэтая ляжала недалёка Пружан. Цяпер я быў зарыентаваны, дзе знаходзіцца Гайнаўка. Селянін пайшоў дахаты і прынёс мне трохі есці і трохі адзення.

Пайшоў я шукаць свайго аддзела. Якое было маё здзіўленне, калі прыйшоў я на тое месца, дзе быў наш аддзел партызанаў і нічога не застаў. Тады, калі мяне злапалі немцы, партызаны змянілі месца пастою і ўсе кантактовыя скрынкі. Як дастацца да аддзела? Ходзячы па пушчы спаткаў знаёмага пастуха, які быў нашым сувязным. Ён паведаміў аддзел, прышоў патруль і забраў мяне.

Замест цёплага прыняцця я спаткаўся ў аддзеле з пэўнай рэзервай. Камандванне выслухала мяне пару раз, разведка разглядала пэўныя справы і на канец паверылі мне і далі зброю. Чуйнасць была вельмі перасцярагана.

Як потым аказалася, да немцаў я папаў зусім выпадкова.

* * *

Была незабыўная раніца 17 ліпеня 1944 года. Недалёка нашага аддзела хтосьці выстраліў. На лясной прасецы стаяў патруль Совецкай Арміі.

Ці-ж можна сёння апісаць радасць, з якой мы віталі пераможцаў? Гэтага не можна расказаць, гэта трэба перажыць. Да нашага аддзела прыйшла група салдатаў Совецкай Арміі. Знайшліся і гарэлка і гармонік. Плылі ўспаміны, апавяданні, спеў. Нам быў канец вайны — совецкіх салдатаў чакала яшчэ далёкая дарога аж да Берліна.

Гайнаўка і навакольныя вёскі былі хутка вызвалены. Штаб нашай партызанскай брыгады затрымаўся ў Гайнаўцы. Мы пакідалі пушчу. Людзі віталі нас кветкамі. Была радасць і былі слёзы. Многа парашутыстаў і салдатаў пайшло ў Армію. Пайшлі ў армію і людзі ад нас. Старэйшыя вярнуліся дамоў будаваць новую рэчаіснасць у Народнай Польшчы.

Партызанскае апавяданне дабегла да канца. Што цяпер робяць героі нашага апавядання, былыя партызаны Юрчук, Саевіч, Койла і іншыя?

Многа з іх разышлося па свеце, выехала ў Совецкі Саюз. Аляксандар Юрчук доўга па вайне не раставаўся з партызанскім аўтаматам, памагаючы разбіваць фашысцкія банды на Беласточчыне і ўстанаўляць новы парадак і народную ўладу. Цяпер працуе ён у дзяржаўнай установе ў Беластоку. Грудзі яго ўкрашаюць Партызанскі Крыж і іншыя адзнакі.



БЕЛОРУССКИЙ
ШТАБ
ПАРТИЗАНСКОГО ДВИЖЕНИЯ
19 сентября 1944 г.
№ Юсув 368

СПРАВКА

Дана настоящая Юрчуку Александру Андреевичу
в том, что он действительно состоял в партизанском отряде им. Дзержинского „За имя Родины"
с „10" августа 1943 по „17" июля 1944
в должности маг. госпиталя

Начальник Отдела Кадров
Белорусского Штаба Партизанского Движения

Тип. им. Сталина. Зак. 62

*Даведка, якую атрымаў тав. Юрчук з Беларускага штаба партызанскага руху.*

Грыгор Саевіч астаўся ў Новасадах. Адбудаваў дом, распачаў працу на раллі. Памагаў арганізаваць сельскагаспадарчы кааператыў у Новасадах і Дубінах.

Цяпер з'яўляецца старшынёй Прэзідыума ГРН у Дубінах, на грудзях у яго ёсць «Крыж Кавалерскі Рэстітута Полёнія».

Сцяпан Койла ўраз з жонкай Ганнай жывуць у Дубінах. Ён працуе ў ПЗГС у Гайнаўцы, яна займаецца жывёлагадоўляй у мясцовым сельгаскааператыве.

Цярэнці Яноўскі жыве ў Пшэходах. Займаецца земляробствам, дзе з'яўляецца перадавіком.

Часамі Саевіч, Койла і Яноўскі збіраюцца разам адведваюць месцы зямлянак і лагераў ў пушчы, магілы таварышаў, месцы на рэйках, дзе высаджвалі фашысцкія цягнікі. Плывуць тады ўспаміны.

Вось з такіх успамінаў паўстала нашае апавяданне.

КАНЕЦ.



 






*На прагулцы ў Белавежскай пушчы.*

## Вытлумачыла

Ён: — Ці бачыла, як гэтая прыгожая дзяўчына ўсміхнулася да мяне?

Яна: — Можа быць. Як я цябе першы раз убачыла, то таксама мяне смех парваў.

(в)

## Канькі

Прыпамінаецца мне заўсёды дзяцінства і першая радасць, калі бацька прынёс канькі Былі гэта звычайныя снягуркі з горда задзёртымі насамі. Калі я ставаў у іх на лёд, то ў мяне ногі вывaрочваліся і пераважна ляжаў на ільдзе з задзёртымі нагамі ўгару, здаецца што нагам так было лепш, чым стаяць на ільдзе.

Потым прышлі другія часы, вецер свістаў у вушах, канькі звонка рэзалі лёд і з пякучым сэрцам імчаўся я з хуткасцю кур'ерскага цягніка.

Потым з'явілася Яна. Трымаючыся за рукі мы плаўна імчаліся па ільдзе, упэўнены ў тым, што свет паўстаў толькі для нас...

Прашло многа часу, нашы канькі ступіліся, — але калі нашае дзіцё падрасло мы першы раз прыкруцілі яму новыя канькі і выцягнулі нашы — забытыя.

Маладосць як-бы вярнулася да нас. Наш малы не мог утрымацца на каньках. Ён падаў, пераварочваўся, упарта ўставаў з жаданнем ездзіць як мы калісьці. Узіраючыся на малога мы смяяліся з яго нязграбнасці, ад'язджалі недалёка ад яго і клікалі дзіцё да сябе.

У цяперашні час большасць дзяцей не можа пазнаёміцца з канькамі і то па простай прычыне — няма канькоў.

Можна купіць матацыкл, шчотку да паллогі, вадкасць для валос з гарантыяй, што валасы ніколі не вырастуць, гарэлкі мы выpабляем дастаткова, баксёрскія рукавіцы таксама заўсёды можна дастаць і крэм «Нівеа», каб замазваць сінякі. Коратка кажучы, прадметаў шырокага ўжытку хапае, толькі з канькамі кепска.

Кажуць, што ў Варшаве ідуць спрэчкі, якога фасону выраблять канькі. Снягуркі з задзёртымі наскамі цяпер нямодныя. Доўгія як нажы нарвежскія канькі — гэта скандынаўскі фасон. «Нурмес» з тупымі, як параходная карма насамі — гэта нямецкія канькі. А польскі фасон...

Гісторыкі даследуюць, якімі канькамі карысталася дружына Балеслава Хробрага.

Усім жадаючым ездзіць на каньках раджу: бярыце кусок бярозавага палена, разрубайце на палавіну, абстругайце, зрабіце дзве дзіркі, прыкруціце шнурком да чаравікаў. Будзеце магчы тады імчацца з хуткасцю скакавога каня, толькі не забывайце належыць шапку канфедэратку, каб ніхто не сумняваўся ў польскім вырабе канькоў.

Апрача таго прыпамінаю, усе грамадзяне маюць права купіць замест канькоў — кан'як.

Пры дапамозе кан'яку палаць можна таксама як на каньках.

*Дзядзька Ляволь*

## НАВУКА

Заснуў я і апаўночы
Чую, чорт да мяне крочыць.
Лапу мне ён працягае,
Ды прымільна разважае:
«Цяжка жывеш, чалавеча,
Ад работы баляць плечы.
У дзень працуеш, ў начы спіш,
Нязнаеш свабоды ты».
І паказвае мне воду,
Ды пякучую нягоду.
Выпіў я адзін кілішак,
Заварчэла каля кішак.
Выпіў другі адным духам,
У лобе, як хто даў абухам.
Усё шуміць, скрыпіць і грае,
Вясёласць мяне хапае,
Тупаю я ды спяваю.
А чорт шчэ мне налівае.
— За свабоду, чорце, цык!
Выпіваю водку ў міг.
Чорт апарат настаўляе
І так мяне навучае:
— Мукі дасі адзін пуд,
Шукай жа хутчэй пасуд,
Падстаўляй, агонь кладзі
Й на здаровечка жані.
Устаў я рана, схапіў гэбаль
І раблю патрэбны мэбаль.
Жонка скоса паглядала:
— Што ты робіш? — запытала.
Бражнік, халаднік гатовы,
Вельмі моцны, бо дубовы.
Дзірку выкрунуў і так...
Ах, яшчэ патрэбны бак.
Знайшоў у вёсцы, купіў бак.
А чаго яшчэ мне брак?
Трубак, дрожджай і мукі,
Ды шчасліваe рукі.
Муку ў цэбры разчыніў,
Пачак дрожджаў уваліў,
А чортаві за навуку
З радасці пацісну руку!

ГАЙДУК УЛАДЗІМІР.

### Амерыканцы аб беларусах

— Якая родная мова жыхароў БССР?

— Расейская і польская.

— А беларуская дзе?

— У кожным выпадку не ў БССР.

— Адкуль-жа гэта ты ўзяў?

— З амерыканскіх «навуковых» крыніц.

Разгарніце вы Амерыканскі Школьны Атлас і там вы пабачыце пад назовам «Белрашэн», сталіца Мінск, а родная мова жыхароў расейская і польская.

(в)

### ПРЫКАЗКІ і ПРЫМАЎКІ

**Сам ні хваліся, няхай людзі пахваляць.**

**Не хватайся, бо як падарвешся то з дзяцей зведзешся.**

**Ні кожны хворы што стогне.**

**За адным цягам дзерава ні зрубаеш.**

## А калі-ж той вечар...

Запісаў Г. І. Цітовіч.




А калі ж той вечар
Дый павечарэе?
Калі ж маё сэрца
Дый павесялее? } 2

«Прыдзі, прыдзі, мілы
Да мяне дахаты,
Адчыню я дзверы,
Каб не чула маці } 2

Каб не чула маці,
Дый не гаварыла,
Каб нас маладзенькіх
Дый не разлучыла» } 2

А як адчыняла,
Цяжка я ўздыхала,
А як выпускала,
Мілага пытала: } 2

«Скажы, скажы, мілы,
Скажы, мой міленькі,
Ці напраўду любіш,
Ці з мяне смяешся? } 2.

Ці напраўду любіш,
Ці з мяне смяешся,
Да другое ходзіш —
Мне не прызнаешся». } 2.

«Я цябе, дзяўчына,
Любіў, любіць буду,
Сазнаюсь па праўдзе —
Сватаці не буду. } 2.

Рад бы цябе ўзяці, —
Не вяліць мне маці.
Як цябе я вазьму,
То не ўседжу ў хаце». } 2.

## ЛІКАВАЯ АДГАДАНКА



У 19 вышэй паданыя кружочкі трэба ўпісаць лічбы ад 1 да 19-ці так, каб сума лічб трох кружочкаў ляжачых уздоўж кожнай з гэтых ліній складала лік 30.

Сярод чытачоў, якія да 10 лютага г. г. прышлюць правільныя развязкі будзе разыграна 10 кніжных узнагарод.

## АГАФОН АБРОТКА АСЦЯРАГАЕ



*Янка, Толік і Міколка*
*Дзісь заведуюць круцёлкай*
*Смехі, жарты і гулянкі,*
*Кружацца стралою санкі.*

*Агафон на каньках сёе,*
*Усю гульню важна следзіць*
*Раптам... трах: і крыкі звонкі.*
*Мкнуцца санкі да палонкі.*

*Выбеглі сяляне з хатаў.*
*Бягуць ратаваць рэбятаў.*
*Агафон што сілы мае*
*Мокрых сяброў выцягае.*

*І да вас, малыя сябры,*
*Кажа Агафончык храбры:*
*— Дзеці — браты і сястронкі,*
*Сцеражыцеся ПАЛОНКІ!*

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

Орган Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Адрас рэдакцыі гор. Беласток, вул. Маніфесту Ліпцовага 25, тэл. 25-89. Умовы падпіскі на 3 месяцы — 7 зл 80 гр., 6 месяцаў — 15 зл. 60 гр., на год — 31 зл. 20 гр. Падпіску прымаюць усе паштовыя ўстановы, пісьманосцы. Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 102-7-161
Выдавецтва РСВ «Праса». Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку. Т-13